мадзянства,—мы і называем лякайствам. І думаем, што ня толькі чытачы нашае часопісі, але і чытачы „Крыніцы“, даведаўшыся аб гэтых фактах, вернуць кс. Станкевічу тыя словы, якія ён гэтак нягодна кідае тым, хто ўсім сваім жыцьцём даў доказ сваей ідэйнасьці і вернасьці беларускай справе.

Мы добра разумеем, чаму якраз цяпер кс. Станкевіч у сваей прэсе вярнуўся ізноў да свайго ўлюбленага мэтаду барацьбы з ідэйнымі працаўнікамі—мэтаду чарненьня і абліваньня гразёй усіх, хто ня хоча з ім есьці з „карыта“. Беларускае грамадзянства, беларускія масы ўсё больш і больш пераконываюцца, што адным крыкам мы нічога не даб'емся, калі ня будзем вясьці шырокае творчае працы. Мала называць сябе незалежнікам: трэба Беларусь будаваць усьцяж, кожын дзень і кожную часіну, а не супакойваць масы тым, што цяпер можна спаць, а там — некалі — нехта дасьць нам незалежнасьць, і тады ўсё належнае нам спагонім! Не: калі мы ня будзем сьвядомымі, арганізаванымі, духова сільнымі, дык і ў найлепшых варунках незалежнасьці не здабудзем. Да творчае працы „нашы“ клерыкалы няздольныя, дык і астаецца ім адно: блявузгаць брудам і чарніць усіх, хто нешта робіць, хто працай сваей, а не салодкімі словамі здабывае давер і пашану народных масаў.

# Што дала першая бюджэтная сэсія новага парлямэнту.

Беларускі выбарщчык, так ці інакш аддаўшы ў значнай меры свае галасы кандыдатам урадавых сьпіскаў, мае права даведацца, што-ж зрабіў для нашага краю й беларускага народу новы Сойм, у якім урадавы Блёк апынуўся ўжо ў вялізарнай большасьці, як бязумоўны яго гаспадар. Вымаўляцца ў тым, што ўраду й яго Блёку перашкаджалі апазыцыйныя партыі, цяпер ужо ня можна, дый адказнасьць за ўсё, што зроблена і робіцца, цалком і непадзельна кладзецца на ўрадавую большасьць сойму.

Што-ж дала гэтая большасьць у сваім першым бюджэце нам, беларусам, якім у часе перадвыбарнай кампаніі гэтулькі казалася аб „новым курсе“, аб „роўнасьці і брацтве“?

Перад тым, як даць адказ на гэтае найбліжэйшае для нас пытаньне, варта паглядзець, які характар наагул мела праца новага Сойму ў яго першую сэсію, які бюджэт ён даў дзяржаве.

———

Насамперш задзіўляе запраўды-ж шпаркасьць працы новага парлямэнту — у параўнаньні з папярэднімі Соймамі.

Пачатак бюджэтнай сэсіі запазьніўся блізу на паўтара месяца, але затое ўсю працу над бюджэтам новы парлямант скончыў за 10 дзён да прадбачанага Канстытуцыяй апошняга тэрміну (1 красавіка).

У камісіі Сойму бюджэт быў разгледжаны ў працягу месяца, а праз пленум Сойму дык праскочыў у 5 дзён, заняўшы усяго толькі 47 гадзін, з якіх 3 пайшлі на галасаваньні, 22 на прамовы дакладчыкаў і міністраў і толькі 32 асталіся на дыскусію.

Такая шпаркасьць працы магчыма была толькі таму, што, як казаў у сваёй апошняй прамове старшыня Сойму Світальскі, „паміж парлямэнтам і ўрадам панавала поўная гармонія ў працы“.

Гармонію гэтую добра ілюструюць паданыя ім лічбы.

Так, — з агульнай лічбы 134 урадавых прапазыцыяў Соймам прыняты 131, ці 98%.. А ў папярэднім Сойме з 205 — прыняты былі толькі 72, ці 27%.

З усяе лічбы 226 паступіўшых у Сойм законапраектаў прайшлі праз Сойм 164, ці 72%. А ў папярэднім Сойме — з 744 прайшлі толькі 169, ці 21%. А былі сэсіі, калі прымалася толькі 5-6% паступаўшага ў Сойм урадавага матэрыялу!

———

Бюджэт на 1931—1932 г. прыняты парлямэнтам, збалянсаваны ў круглай суме — 2 міліярды 860 міліёнаў.

Усю гэтую вялізарную суму — ў увагі на агульны гаспадарчы крызіс — трудна будзе спагнаць з насяленьня, на якое ў дадатак узложаць свае бюджэты — каля міліярда — яшчэ і органы самаўрадаў і сацыяльнай апекі. Дык вось апазыцыя рашуча заявіла, што спагнаць такую суму з насяленьня будзе немагчыма, а таму бюджэт гэты ёсьць нерэальны.

Большасьць Сойму страшэнна абурылася за гэткую „дэмагогію“ з боку апазыцыі. Але сам міністар фінансаў — ужо ў сэнаце — пасьля таго, як Сойм прыняў бюджэт блізу цалком у ўрадавых лічбах — заявіў, што блізка да праўды тое, што пэсімісты ня вераць у магчымасьць атрымаць даходаў з краю больш, як на 2 з паловай міліярды.

Дый каб большасьць Сойму ня прыняла „на ўсялякі выпадак“ прапазыцыі апазыцыйнага „людовага клюбу“, упаважняючы ўрад — у разе патрэбы — скасаваць 15%-тавы дадатак да пэнсіяў урадоўцаў, ды тады ў прынятым ужо Соймам, як зроўнаважаным цалком бюджэце, быў-бы — згодна з заявай самога мін. фінансаў — вялізарны недахоп у 350 міліёнаў зл.

Але-ж недахоп і без таго будзе, бо-ж скасаваньне дадатку ўрадоўцам дасьць экономіі толькі на 200 міліёнаў. Пэўныя сумы дадуць яшчэ розныя падатковыя цяжары, прынятыя ўжо Соймам; але, каб захаваць раўнавагу ў бюджэце міністар, як заявіў ён сам, мае падаць у Сойм яшчэ „новыя непапулярныя прапазыцыі“ — аб новых падатках...

Мін. фінансаў ня хоча называць гэта „дэфіцытам“, але называе яго „розьніцай паміж верхнім і ніжнім пляфонамі бюджэту“. Па сутнасьці-ж гэта ўсё роўна.

Як-бы там ні было, але йшчэ і цяпер, пасьля прыняцьця бюджэту парлямэнтам, няведама даклада, які бюджэт будзе фактычна ў выкананьні: ці з „верхнім пляфонам“, гэта значыць: на 2.860 міл., ці — з „ніжнім пляфонам“, гэта значыць — на 2.500 міл.? Бо-ж з аднаго боку міністар Матушэўскі сказаў, што будзе далей рабіць ашчаднасьці ў выкананьні бюджэту: скарыстае пэўне-ж з дазволу зьняць 200 міл. з пэнсіяў урадоўцаў і т. д., а з другога боку, як сказана, абяцаў „прыйсьці ў парлямант з новымі непапулярнымі прапазыкамі“.

Такім чынам выходзіць, што ўрад, выконваючы бюджэт, фактычна можа ўсьцяж мяняць яго, ня лічучыся з „ухваленымі“ парлямэнтам лічбамі даходаў і выдаткаў. І ўрад, у асобе мін. фінансаў, зусім не хавае гэтага. Наадварот — ён і яго большасьць у Сойме правялі такую „скарбовую ўставу“ (закон аб парадку выкананьня бюджэту), якая дае ўраду выразна — ня толькі фактычна, але й юрыдычна — блізу неабмежаную свабоду ў выкананьні бюджэту.

Запраўды-ж — бюджэтны закон (асабліва арт. 6 й 7) дае магчымасьць ураду — ня толькі ня лічыцца цалком з рамкамі бюджэтных асыгнаваньняў, свабодна пераносячы крэдыты з аднаго § у другі, але й рабіць перарасходы й адчыняць новыя крэдыты на выдаткі, не прадбачаныя бюджэтам, — пад адным варункам, што будуць знойдзены крыніцы для пакрыцьця гэтых крэдытаў.

Прынятая парлямантам „скарбовая устава“ йдзе нават так далёка, што дазваляе зрабіць усё гэта ўраду — ня толькі ў часе перарываў працы ці адсутнасьці парлямэнту, але і ў часе яго бягучай сэсіі, даючы такім чынам ураду блізу цалком неабмежанае права выдаваць народныя грошы без папярэдняй згоды з боку народнага прадстаўніцтва.

**Аглядчык.**

(Далей будзе).

# Палітычнае жыцьцё.

## Польшча.

### Міліярдавая француская пазыка Польшчы.

1 сакавіка ў Варшаву вярнуліся з Парыжу мін. Залескі й яго віцэ-міністар Коц, якія прывязьлі вестку аб тым, што Францыя згадзілася даць польшчы міліярд франкаў пазыкі—на будову чугункавай лініі з Верхняй Сілезіі да Гдыні. Міністры заявілі, што ўмова будзе фармальна падпісана зараз-жа пасьля сьвятаў.

„Гэтая пазыка—найвялікшая фінансавая апэрацыя на францускім грашовым рынку за ўвесь час пасьля вайны“, сказаў мін. Залескі, падчыркнуўшы, што пазыка гэтая, як і будова чугункі адаб'ецца найкарысьней на ўсім гаспадарчым жыцьці краю. Трэба прызнаць атрыманьне пазыкі вялізарным пасьпехам польскага ўраду. Да пасьпеху гэтага, можа, крыху прычынілася й тая... так страшэнна занепакоіўшая Францыю „актыўнасьць Нямеччыны“, якая выразілася ў акце „злучэньня“ з Аўстрыяў. Француская пазыка Польшчы — на закрапленьне польскага Паморра і польскай Сілезіі, да якіх усьцяж працягівае рукі Нямеччына, зьявілася як быццам адказам на „аўстрыяцкую авантуру Нямеччыны“, пагражаючую гаспадарчай, а ў далейшым і палітычнай гегемоніі (панаваньню) Францыі ў Эўропе...

## Заграніцай.

### Справа гаспадарчага злучэньня Нямеччыны з Аўстрыяй.

Справа мытнага аб'яднаньня Нямеччыны з Аўстрыяй не перастае страшэнна хваляваць усіх эўрапэйскіх палітыкаў. Брыян, які асабіста быў „падкалены“ спрытным ходам Курцыуса, у страшэнным абурэньні заявіў, што ён „ніколі не дапусьціць да зрэалізаваньня гэтай уніі“.

Але падтрымамала Францыю—ў яе рашучым становішчы проці ўніі — толькі адна Чэха-Славацыя...

Ня гледзячы на ўсе намовы Брыяна, Гэндэрсон (Англія) заявіў, што Англія патрэбуе толькі „дасьледу праўнага боку аўстрыяцка-нямецкай умовы“. Калі праўна ўсё ў парадку: не пярэчыць трактатам і ўмовам, тады Англія пратэставаць ня будзе. Таму Англія прапануе, каб Ліга Нацыяў спраўдзіла толькі гэты бок справы, не датыкаючыся палітычнага боку яе. На гэта цалком згаджаюцца і Нямеччына і Аўстрыя, якая мае даручыць абарону ўсей справы ў Радзе Лігі нямецкаму міністру.

Італія так сама заявіла, што падзяляе пагляд Англіі. Нават францускія „васалы“ — Румынія й Югаславія ашукалі ўсе спадзяваньні Францыі, не падтрымаўшы яе ў такі рашучы мамэнт. А гэта — таму, што Нямеччына ўжо вельмі глыбака ўвайшла ў гаспадарчыя сувязі з гэтымі краямі, — мае там уплывы, якія пасьпешна змагаюцца з фран-

**Прачытаушы газэту — перадай другому.**

**Ф. Акінчыц.** Перадрук і пераклад забаронены.

# На аграрныя тэмы.

(друкуецца, як дыскусыйны матэрыял).

(Працяг)

Наколькі мізэрна наагул колькасьць камун відаць хаця-бы з статыстычных дадзенных адносячыхся да Сав. Беларусі.

Так напр. у дадзеных Урадовай Пляновай Камісіі пры Сав. Нар. Камісіі. Б. С. С. Р. (Кантр. лічбы народ. гаспадаркі і культуры на 1928—29 г.) мы знаходзім такія цыфры па гэтаму пытаньню.

КАМУНЫ.

| | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. |
|---|---|---|---|
| Колькасьць аб'яднаньняў | 48 | 96 | 130 |
| Сельска-гаспадарчае зямлі (у гэкт.) . . . . | 8.928 | 13.660 | 21.700 |
| Колькасьць сямей . . . | 547 | 760 | 1064 |

Калі-ж прыняць пад увагу, што ўвесь пасеўны абшар БССР у 1927/28 г. раўняўся 3,403,800 гэкт., то адсюль можна бачыць, якое марнае мейсца займаюць камуны ўва ўсей сельскай гаспадарцы Беларусі і як доўга прышлося-б чакаць на тое, каб увесь пасеўны абшар „камунізаваўся“ пры існуючым тэмпе калектывізацыі гэтага роду.

Па цэлай чарзе прычынаў, на каторых мы ня будзем затрымлівацца, калектыўная форма гаспадаркі абсалютна карыстаецца антыпатыямі працоўнага сялянства ня толькі на Беларусі, але і ўва ўсім СССР і нават можна сказаць больш — сялянства ў сваёй масе адносіцца да яе варожа, чаго ня скрываюць нават савецкія крыніцы.

Часта-густа ваколічнае сялянства нападае на камуны, падпальваючы гаспадарскія будынкі, аб чым можна даведацца з савецкіх газетаў.

Нават сам Калінін змушаны быў прызнаць гэта ў аднэй з сваіх прамоў, і даводзіў, што трэба шукаць нейкіх іншых шляхоў дзеля правядзеньня рэканструкцыі сельскае гаспадаркі.

Апрача даволі слабых перспэктыў на лепшую будучыню ў сэнсе свайго колькаснага росту—стан камун і ў якасных адносінах, — у сэнсе арганізацыі працы ў іх, прадстаўляе вялічыню зусім ад'емную.

Паміма таго ўжо, што ў камуны сабраліся ўсякага роду нікудышнікі, шукаўшыя лёгкага хлеба, — у іх не назіраецца правядзеньня якіх небудзь асноў, якія-б дазвалялі нам сказаць, што там сапраўды здзейсніліся правільныя формы арганізацыі працы і што гэтыя асновы павінны быць уведзены ў сацыялістычным грамадзянстве.

У гэтай галіне ўва ўсіх камунах назіраюцца самыя рознародныя асновы, каторыя супярэчаць адна аднэй. Ня рэдка і такога роду зьявішчы, калі пэўная камуна, збудаваная на адных падставах, праз некаторы час ломіць іх і пераходзіць на іншыя, што нарэшце ўводзіць анархію ў вытворчых адносінах і аканчальны развал.

У іншых камунах у аснову ўнутранай структуры пакладзена матэрыяльная зацікаўленасьць кожнага сябры. Калі чалавек больш і лепш працуе, то ён больш і атрымоўвае.

Да такога тыпу належыць напр. „Красіва-Мечэнскае“ таварыства Маскоўскай губ., аб каторай апавядае нам вышэй успомнены Мілюцін.

У гэтым таварыстве кожны яго супольнік працуе як бы па найму і атрымоўвае па 17-ці разраднай сетцы „Усеработземлеса“.

Ці лянівы супольнік таварыства ці не—гэта яго справа. Калі ён не зажадаў працаваць, то ён сам сябе пакараў. Калі ён не папаў у табель, то яму ня будзе залічана аплата працы — пэнсія за гэты дзень.

На Беларусі, у сябрыні „Адраджэньне“ арганізацыя працы таксама збудавана на падставах заработнай платы, прычым гэта плата вызначаецца атпаведна колькасьці гадзінаў і якасьці працы.

Праца арганізавана ў гэтай камуне так: „спачатку вялася толькі запіс рабочых дзён, але на гэтым грунце адбываліся спрэчкі, у выніку чаго прышлося запісываць дні і колькасьць гадзін. З гэтага часу стала куды лягчэй і кіраўніку працаў. Раней старшыня павінен быў шукаць рабочых, а цяпер, як кажуць, самі рабочыя шукаюць яго, каб атрымаць працу. Аплата працы ўстаноўлена ў 15 руб месячна, прычым вясеньні дзень аплачываецца па 40 кап., летні па 75 кап. а зімовы і васеньні па 30 к. Вылічываецца за-

